# Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь



Нарматыўны даведнік

Мінск
«Тэхналогія»
2003

# Назвы населеных пунктаў РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



Мінская вобласць

**Заўважаныя недакладнасці**

| Старонка | Месца | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| с. 3 форзаца | карта Мінскай вобласці, Барысаўскі раён | Майсееўшчына | Маісееўшчына |
| с. 91 | 6-ы радок знізу | Кострычнік | Октябрь |
| с. 179 | 7-ы радок знізу, графа "Назва на рускай мове" | Энергетиков | п. Энергетиков |

УДК 342.26:801.311(476.1)(035.5)
ББК 67.401Я2
Н 19

*Узгоднена*
*з Тапанімічнай камісіяй*
*пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь*

*Зацверджана Камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь у якасці нарматыўнага выдання, прызначанага для выкарыстання рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Рэспублікі Беларусь*

А ў т а р ы :
І.А.Гапоненка, І.Л.Капылоў, В.П.Лемцюгова, Г.М. Прышчэпчык,
З.В.Рубцова, Г.К.Усціновіч, Н.А.Чабатар

П а д а г у л ь н а й р э д а к ц ы я й
доктара філалагічных навук, прафесара В.П.Лемцюговай

К а н с у л ь т а ц ы й н а я г р у п а :
Н.Р.Аўраменка, І.Л.Капылоў, З.В.Рубцова

Н 19 **Назвы** населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мін. вобл.: Нармат. давед. / І.А.Гапоненка, І.Л.Капылоў, В.П.Лемцюгова і інш.; Пад рэд. В.П.Лемцюговай. — Мн.: Тэхналогія, 2003. — 605 с.

ISBN 985-458-054-7.

Нарматыўны даведнік уключае ўсе наяўныя на 31 снежня 2002 г. назвы населеных пунктаў вобласці ў межах адміністрацыйна-тэрытарыяльных падраздзяленняў (раён, пасялковы, сельскі савет). Назвы падаюцца беларускай кірыліцай і лацінкай і рускай графікай. У беларускамоўнай частцы ва ўсіх назвах паказаны націск, граматычны род, множны лік, прыводзяцца парадыгмы скланення, варыянты рэестравых назваў і страчаныя назвы. Даведнік суправаджаецца прадмовою на беларускай і рускай мовах, алфавітнымі паказальнікамі назваў населеных пунктаў у трох графічных варыянтах.

Для выкарыстання рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, шырокага кола чытачоў.

**УДК 342.26:801.311(476.1)(035.5)**
**ББК 67.401Я2**

ISBN 985-458-054-7

## АД НАВУКОВАГА РЭДАКТАРА

Нарматыўны даведнік “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Мінская вобласць” падрыхтаваны калектывам аўтараў пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук, старшыні Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі В.П. Лемцюговай. Праца выконвалася пры шырокім удзеле грамадскасці Рэспублікі Беларусь — школьных настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ і студэнтаў, супрацоўнікаў краязнаўчых музеяў, работнікаў сельскіх саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў. З дазволу супрацоўніцы Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута геадэзіі, аэраздымкі і картаграфіі З.В. Рубцовай у даведнік уключаны варыянтныя формы беларускіх назваў паселішчаў, сабраныя ёю праз анкетаванне ў школах рэспублікі. Значна паспрыялі ўнармаванню назваў звесткі, дасланыя ў Рэспубліканскую тапанімічную камісію і газету “Звязда” старшым навуковым супрацоўнікам Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея В.А. Коласавай, спецыялістам у галіне тапаграфіі В.С. Канцавым (г. Мінск), М. Тонкавічам (з Лагойшчыны) і іншымі. Пры падрыхтоўцы даведніка выкарыстоўваліся таксама паказанні гістарычных і сучасных пісьмовых крыніц, сярод якіх “Акты, издаваемые Виленской археографической комиссиею”, “Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской”, “Списки населенных мест Виленской, Витебской, Минской губерний”, “Указатель по населенным местам Гродненской губернии”, “Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі”, “Слоўнік назваў населеных пунктаў” (у шасці тамах) Я.Н. Рапановіча, “Słownik geograficzny Królestwa Polskiego”, “Дыялекталагічны атлас беларускіх народных гаворак”, энцыклапедычныя выданні, геаграфічныя атласы і карты. Гэтак па крупінцы збіралася інфармацыя, якая легла ў аснову важнага дзяржаўнага дакумента.

Рукапіс даведніка чатыры разы ўзгадняўся ў раённых выканаўчых камітэтах, неаднаразова абмяркоўваўся на пасяджэннях Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Аўтарскія заданні размяркоўваліся наступным чынам: І.А. Гапоненка — Валожынскі, Дзяржынскі, Маладзечанскі, Мінскі, Салігорскі раёны; І.Л. Капылоў — Барысаўскі, Клецкі, Лагойскі, Мядзельскі; В.П. Лемцюгова — прадмова, Мінская вобласць, Вілейскі раён; Г.М. Прышчэпчык і В.П. Лемцюгова — Нясвіжскі, Смалявіцкі, Стаўбцоўскі, Чэрвеньскі; Г.К. Усціновіч — Бярэзінскі, Капыльскі, Крупскі, Пухавіцкі; Н.А. Чабатар — Любанскі, Слуцкі, Старадарожскі, Уздзенскі раёны. З.В. Рубцова падрыхтавала варыянты назваў населеных пунктаў. Кантрольны прагляд даведніка выкананы Дзяржаўным цэнтрам картографа-геадэзічных матэрыялаў і дадзеных Рэспублікі Беларусь па дзяжурных і даведкавых матэрыялах Камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Камп'ютарны набор тэксту ажыццявіў І.Л. Капылоў.

Аўтарскі калектыў лічыць сваім прыемным абавязкам выказаць шчырую падзяку старшыні Камзема і старшыні Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Г.І. Кузняцову, намесніку старшыні Камзема Т.В. Пыка, сакратару Тапанімічнай камісіі Н.Р. Аўраменка за дзейсную падтрымку на ўсіх этапах падрыхтоўкі выдання. Дзякуем усім арганізацыям і прыватным асобам, якія аказалі дапамогу ў зборы інфармацыі і пры ўзгадненні тэксту даведніка.

*Заўвагі і прапановы просім дасылаць на адрас: 220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корпус 2. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Рэспубліканская тапанімічная камісія.*

# ПРАДМОВА

## 1. Агульныя звесткі пра ўласныя геаграфічныя назвы

Беларускія ўласныя геаграфічныя назвы (тапонімы)[1] сфармаваліся на працягу стагоддзяў у самай цеснай сувязі з жыццём і культурнай дзейнасцю роднасных і няроднасных нам плямён і народаў, якія калі-небудзь насялялі наш край. У сукупнасці яны складаюць ***беларускую нацыянальную тапанімію.***

Разам з помнікамі старадаўняга дойлідства, руінамі гарадзішчаў і замчышчаў мы ўспадкавалі ад мінулых пакаленняў і ўласныя геаграфічныя назвы — своеасаблівы летапіс сваёй зямлі. Маючы на ўвазе тапанімную спадчыну, нямецкі філолаг Вільгельм Грым пісаў: "Ёсць больш жывыя сведчанні пра народы, чым косці, дамавіны і зброя, — гэта іх мова". Сапраўды, тапонімы ў адрозненне ад археалагічных знаходак увасабляюць у сабе моўную (гукавую) памяць пра этнасы, што значна падвышае іх інфарматыўную каштоўнасць.

Адлюстроўваючы нацыянальны каларыт (г.зн. своеасаблівасць нацыянальнай мовы і культуры), тапонімы з'яўляюцца важнай часткай нашай гістарычна-культурнай спадчыны і гэтак жа вартыя ашчаднага стаўлення і аховы, як і іншыя творы чалавечага духу і чалавечых рук. Кожны зніклы тапонім — непапраўная страта, збядненне нашага тапанімнага ландшафту. Скажоныя назвы не толькі ўступаюць у супярэчнасць з іх адраснай функцыяй, але і губляюць сваё нацыянальнае аблічча, моўную спецыфіку, гістарычна-культурную і навуковую вартасць.

Адрасная функцыя ўласных геаграфічных назваў надзвычай важная, але не адзіная. У кожнай назве абавязкова прысутнічае або прысутнічаў канкрэтны гістарычны сэнс, усімі сваімі каранямі яны звязаны з культурай народа, з'яўляюцца яе прадуктам і параджэннем, практычна неаддзельныя ад яе. Тыя тапонімы, у якіх увасоблены ты-

---

[1] Тапонім — уласная назва любога геаграфічнага аб'екта (ад грэц. *топас* 'месца' + *оніма* 'імя, найменне'). Айконім — адна з разнавіднасцяў тапонімаў — назва населенага пункта (ад грэц. *ойкас* 'жыллё' + *оніма* 'імя, найменне'). Тапанімія — сукупнасць уласных геаграфічных назваў. Айканімія — сукупнасць уласных назваў населеных пунктаў.

повыя рысы нацыянальнай культуры, факты або падзеі, звязаныя з гісторыяй народа, адносяцца да катэгорыі ***гістарычна-культурных помнікаў***.

Пачэсны абавязак і справа гонару кожнай дзяржавы — абараніць свой нацыянальны культурны скарб, забяспечыць яму надзейную дзяржаўную ахову.

**2. Уласныя назвы населеных пунктаў. Сучасны стан**

Беларуская айканімія празмерна абцяжарана варыянтнасцю на пісьмовым і вуснамоўным узроўнях, вызначаецца неўпарадкаванасцю і непісьменным афармленнем. Прычыны гэтага як у нашым далёкім, так і адносна нядаўнім мінулым. Яшчэ з часоў Люблінскай уніі (1569) сітуацыя для беларускай мовы складвалася даволі неспрыяльна. Пазней, у 1696 г. сойм Рэчы Паспалітай скасаваў афіцыйны статус беларускай мовы і такім чынам адкрыў шлях да татальнай паланізацыі. Ад гэтага часу назвы беларускіх паселішчаў запісваліся толькі графічнымі сродкамі польскай мовы ў характэрных для яе фанетычнай і граматычнай формах. У такім выглядзе большасць з іх увайшла ў дзяржаўныя дакументы, карты, выцесніўшы з пісьмовай і картаграфічнай практыкі нашы спрадвечныя правільныя формы. У выніку склаліся дзве разнавіднасці беларускай нацыянальнай айканіміі — афіцыйная (паланізаваная) і вуснамоўная (традыцыйная).

Калі Беларусь апынулася ў складзе Расійскай імперыі, ні дакументалісты, ні гісторыкі, ні картографы таксама не парупіліся пра дакладнасць перадачы беларускіх айконімаў на рускую мову. Яны запазычвалі ўжо гатовыя польскія формы і запісвалі іх кірыліцкай графікай. У выніку шэраг беларускіх айконімаў увайшоў у гісторыю ў чужамоўнай ці скажонай форме, з неўласцівымі для іх гукавымі, граматычнымі і славаўтваральнымі рысамі. Гэтым была нанесена шкода ўсёй айканімнай сістэме Беларусі. У пісьмовай практыцы запанавалі паланізаваныя формы, многія з якіх яшчэ і сёння прызнаюцца за афіцыйныя: *Азяры́ска, Аця́чы́зна, Бжэ́гі, Ву́лька, Гу́рка, Дамбро́ва, До́ўбізна, Забрэ́ззе, Калядзі́зна, Стаўпо́віскі, Турже́ц, Хо́йна, Хо́йнікі* і інш. У гэты ж спіс трапілі і назвы нашых шырокавядомых гарадоў *Брэст, Гро́дна, Навагру́дак, Драгі́чын*, якія згадваюцца ў ранніх летапісах і іншых старажытнапісьмовых дакументах ў сваім усходнеславянскім абліччы: *Бересть, Бересте, Городня, Новогородок, Новгородок, Дорогичин*. У гэтых жа формах (толькі з некаторымі

фанетычнымі відазменамі) яны і зараз стабільна ўжываюцца ў вусных зносінах (*Бэ́рэсць, Бэ́рэсце, Бе́расце, Го́радня, Нава́гарадак, Дарагі́чын*).

У працэсе рускамоўнай апрацоўкі мноства беларускіх назваў яшчэ больш аддалілася ад свайго арыгінала. Напрыклад, беларускія *Чарэ́мушнікі* ў рускім варыянце перайначаны на *Черёмушки,* адпаведна *Чамяры́цы — Чемерисы, Сухаве́жа — Суховержи, Казялу́жа — Козелужье, Ба́бінка — Бабёнка, Го́сміра — Госмирово, Шы́цікі — Щитики, Стра́лічаў — Стреличево, Ло́ўжа — Ловша, Зве́сніца — Двесница, Глу́шынцы — Глушницы, До́шнава — Дошмово, Каршаві́ца — Крашевица, Ба́ўцічы — Балтичи, Галавачы́ — Головичи, Пу́кшына — Пушкино, Харкі́ — Харьки, Во́жыкі — Ожики, Но́выя Зеляанькі́ — Новые Зелёнки, Іва́нічы — Ивановичи, Смагаро́ўка — Сморговка* і г.д. Прайшоўшы праз расійскую канцылярыю, зніклі або страцілі пэўнасць цэлыя словаўтваральныя тыпы беларускіх айконімаў. Напрыклад, спрадвечна беларускія формы сельскіх паселішчаў на *-аў, -оў(-ёў), -еў, -ін(-ын)* зусім свядома былі заменены на звыклыя для расіян формы на *-ава, -ова(-ёва), -ева, -іна(-ына).* Такім чынам, кажам *Барбаро́ў, Галачэ́ў, Пало́еў, Хо́наў, Шапярэ́ў* (на Магілёўшчыне), *Брылёў, Віно́раў, Во́саў, Людвіко́ў, По́каршаў, Хо́растаў* (на Міншчыне), а пішам *Барбаро́ва, Галачэ́ва, Пало́ева, Хо́нава, Шапярэ́ва, Брылёва, Віно́рава, Во́сава, Людвіко́ва, По́крашава, Хо́растава.*

У савецкі перыяд якіх-небудзь пазітыўных зрухаў у дачыненні да нацыянальнай айканіміі не адбылося. Па-ранейшаму заставаліся ва ўжытку паланізаваныя і русіфікаваныя формы. Паступова ўвесь корпус беларускіх айконімаў, у тым ліку і картатэка назваў населеных пунктаў Беларусі пры былым Вярхоўным Савеце БССР, быў пераведзены на рускую арфаграфію. Пасля гэтага беларускамоўныя формы айконімаў выводзіліся выключна з рускамоўных, што дадало неразбярыхі, памылак і скажэнняў.

Працяглая афіцыйная фіксацыя беларускіх айконімаў у адаптаваных рускіх формах і адвольная перадача іх на беларускую мову спарадзілі масу варыянтаў (фанетычных і марфалагічных мадыфікацый), далёкіх ад арыгінала. Прыкметна павялічыўся разрыў паміж пісьмовай формай і вуснай. Вось як гэта выглядае на канкрэтных прыкладах. У Лідскім раёне Гродзенскай вобласці мясцовыя формы *Дзітва́, Падзітва́, Ву́лька Даргу́нская, Бо́льчыцы, Прудзя́ны, Ва-*

*рано́ва, Кармілкі, Няцёча, Бяліца, Цвёрмы, Місу́ры*, афіцыйныя — *Дзітва, Падзітва, Ву́лька Драгу́нская, Бальчы́цы, Пру́дна, Во́ранава, Карнілкі, Няцёч, Бе́ліца, Цвёрма, Місю́ры*. Гэткая з'ява назіраецца паўсюдна: мясцовая форма *Бе́гамля* — афіцыйная *Бяго́мль*, аналагічна *Кляву́* — *Клёва, Ра́дашкавічы* — *Радашко́вічы, По́ставы* — *Паста́вы, Скі́даль* — *Скі́дзель* і інш.

Разнабой трывала ўсталяваўся і ў пісьмовай практыцы. Нават у досыць аўтарытэтных сучасных выданнях адна і тая ж назва пішацца па-рознаму: *А́льбін* і *А́льбінск, Старадуу́мка* і *Старадуу́бка, Мяхе́давічы* і *Міхе́давічы, Зашчэ́б'е* і *Зашчо́б'е, Снядзін* і *Сне́дзін, Кача́н* і *Качано́ва, Гару́сты* і *Гары́сты, Ка́бішча* і *Ка́бішы, Пру́сін* і *Пру́сіна, Ры́скаў* і *Рыско́ва, Сіцькава* і *Сіцько́ва, Ціхо́навічы* і *Ціхано́вічы, Дына́раўка* і *Дзіна́раўка, Ста́нькава* і *Ста́нькаў, Грабе́нь* і *Грэ́бень, Забача́ны* і *Забіча́ны, Скры́льская Слабада́* і *Скрыль-Слабада́, Гарба́наўка* і *Урба́наўка, Забаённе* і *Забае́нне, Студзёнка* і *Сцюдзёнка, Ву́збераж* і *У́збераж, Мірані́* і *Міро́ны, Сялёц* і *Сяльцы́, Ко́рсынь* і *Карсі́нь, Бу́хавічы* і *Бухо́вічы, Грачы́хі* і *Грычы́хі, Бяла́вічы* і *Бяло́вічы, Більцавічы* і *Більцэ́вічы, Калаўсу́ці* і *Клаўсю́ці*.

Нямала шкоды нанесла нацыянальнай айканіміі кампанія па перайменаванні, якая дасягнула сваёй вяршыні ў 1960-я гады. Толькі ў 1964—1968 гг. свае спрадвечныя назвы страцілі звыш трохсот населеных пунктаў Беларусі. А ўвогуле сёння тысячы нашых вёсак жывуць пад чужымі імёнамі. Найболей пацярпеў старажытны айканімны фонд. З яго складу выдалена ўсё, што здавалася зняважлівым, грубым, ідэалагічна неадпаведным ці проста незразумелым. Побач з сапраўды абразлівымі і немілагучнымі назвамі тыпу *Сабакінцы, Неўмывакі, Халуі, Боўдзілавічы, Балванаўка, Бязбожнік, Дурынічы, Гнойны Рак* нярэдка адыходзяць у нябыт і зусім прыстойныя, арыгінальныя (часам адзінкавыя ў сваім родзе) назвы, такія, як *Ліхтэрня, Стары Майдан, Суднікі, Гарадок, Манастыр, Божадары, Вобчае, Вулька Жандовая, Засценак Дубрава, Данілаўская Буда, Гаспода, Маёнтак, Фальварак, Бераставіца, Іван-Бор, Аўгустберг, Радацэнь* і інш.

Разам з імі зніклі важныя гістарычныя і моўныя звесткі, якія тычацца мінулага нашага краю. Напрыклад, слова *ліхтэрня* ў старажытнасці азначала 'прадпрыемства, на якім выраблялі ліхтэры — невялікія грузавыя судны тыпу баржы'; слова *майдан* — 'печ, у якой абпальвалі цэглу'; *буда* — 'прадпрыемства па перапрацоўцы драў-

ніны; паташны завод'; *гарадок* — 'старажытнае ўмацаванае паселішча; крэпасць'; *вулька* (*волька*) — 'новае ільготнае паселішча, жыхары якога на пэўны час вызваляліся ад падаткаў', а польскі прыметнік *жандовы* (*rządowy*) 'урадавы, дзяржаўны, казённы' ўказвае на тое, што гэтае паселішча належала дзяржаве, а не прыватнай асобе; *засценак* — 'паселішча або шнур зямлі за межамі (сцяною) асноўных надзелаў'; словы *гаспода, маёнтак, фальварак* — 'сядзіба заможнага гаспадара, пана'; *вобчае* — 'зямля, якая знаходзілася не ў прыватным, а ў агульным (абшчынным) карыстанні'.

Між іншым, большасць скасаваных назваў не ўтрымлівала ніякага зняважлівага сэнсу. Нехта не ўпадабаў назву *Супаросная Слабада*, у якой, відаць, пачулася штосьці сугучнае са словам *пароснaя* ('жывёліна, якая носіць у сабе плод' — пра свінню). На самой справе вёска гэтак названа за тое, што ў даўніну, будучы тады яшчэ слабадою, яна размяшчалася на беразе ракі *Супаросль*. Дарэмна абвінавацілі ў нечым непрыстойным і назву *Загаліха*. Сэнс яе ў тым, што для заснавання свайго паселішча людзі абралі месца за бязлесным балотам, у народзе яно завецца *галае* (*голае*) *балота*, або проста *гала, галіха, галіца* (аналагічна *лысуха, лысіца* 'гара без расліннасці'). Назву *Чарцеж*, напэўна, параднілі са словам *чорт* і перайменавалі ў *Сонечнае*. У сапраўднасці ж паміж імі няма нічога агульнага. Ды і ці мог старажытны чалавек увасобіць у назве свайго паселішча д'ябальскі сэнс? *Чарцеж*, як і *Чарцёж, Чарцяж, Чэрці*, тэматычна звязаны з падсечна-агнявым земляробствам, якое з глыбокай даўніны было тыповым заняткам беларусаў. Каб адваяваць у леса мізэрны астравок ворнай або сенажатнай зямлі, трэба было найперш засушыць дрэвы. З гэтай мэтай на іх у пэўную пару года рабілі засечкі ('*черти, чертяжи*'). Адсюль і пайшлі назвы лясных дзялянак, а таксама тых паселішчаў, што на іх засноўваліся. Словы гэтыя і іх сэнс вельмі даўнія, яны зрэдку згадваюцца толькі ў тэкстах старабеларускіх пісьмовых помнікаў XVI — XVII стст. Не змяшчаюць у сабе негатыву і такія назвы, як *Гапоны, Пецюлі, Мартышкі*. У іх знайшлі ўвасабленне размоўна-бытавыя формы праваслаўных імёнаў *(Гапон* ад *Гапей, Пяцюль* ад *Пётр, Мартышок, Мартышко* ад *Марцін*). У мінулым беларусы надзвычай творча папрацавалі над чужым, незразумелым ім іменасловам, што прыйшоў у X ст. з Візантыі праз старославянскую мову разам з прыняццем хрысціянства. Напрыклад, афіцыйнае імя *Евфимий* у вуснах народа пераўтворана ў *Яхім, Аўхім, Ахім, Аўхута, Юх, Юхо, Юхно, Юш,*

*Юша, Юшко, Юць, Ютко, Юцко, Яхно,* імя *Константин* — у *Косця, Касцюк, Касцюшка, Кастыка, Касцян, Касцяш, Касцяй, Касцялей, Касцяга.* Менавіта яны і засведчыліся ў такіх назвах нашых паселішчаў, як *Аўхімкі, Аўхуты, Юхавічы, Юхнава, Юхнавічы, Юшкі, Юшкавічы, Юцішкі; Касцюковічы, Касцюшкава, Касцюкі, Касцяны, Касцянкі, Касцяшы, Кастыкі, Касцягаўка.*

Тысячы назваў вядуць свой пачатак ад родавых празванняў і мянушак тыпу *Бальдзюкі, Блізнюкі, Брухачы, Быкі,Ваўкі, Каты, Рагачы, Матыкі, Ласі, Сабалі, Баранавічы, Калацілы, Петухоўка, Рылаўшчына.* Як правіла, мы з разуменнем ставімся да прозвішчаў *Быкаў, Воўк, Кот, Собаль, Баранаў, Петухоў, Рылаў, Шылаў, Слюнькоў,* а ў складзе назваў паселішчаў яны нас чамусьці раздражняюць. *Каты* замянілі на *Сасновую, Слюнькоўшчыну* — на *Красную Паляну, Бізюкі* — на *Майскую* і г.д. У немцаў і англічан, напрыклад, назвы *Оксенфурт* і *Оксфард* у перакладзе абазначаюць *Бычыны Брод,* але ўспрымаюцца зусім натуральна і ніхто не збіраецца іх пераймяноўваць.

На дзіва лёгка мы расстаемся з гістарычна матываванымі найменнямі і замяняем іх на штучна прыдуманыя. Вёска *Засценкі* пасля перайменавання стала называцца *Кастрычнік, Драхча Буглацкая* — *Праўда, Капцюгі* — *Красны Маяк, Шпалзавод* — *Брацкая, п. Пакроўскі* — *Пражэктар, Амерыка* — *Савецкая, Падсавін* — *Ляшчэўнік, Заграбелле* — *Сцяг, Рачча* — *Пралетарыя.* Значны культурны пласт геаграфічных назваў пацярпеў у выніку ідэалагічнай мадэрнізацыі. Вёска *Божы Дар* пераафармлена ў *Красны Дар, Горы-Горкі* — у *Беларускія Горкі, Алёс* — у *Чырвоны Алёс, Лясны Востраў* — у *Чырвоны Востраў, Германава Слабада* — у *Чырвоную Слабаду* і г. д. Перайменаванні, як правіла, праводзіліся стыхійна, некампетэнтна. Таму у адным і тым жа раёне могуць быць дзве і болей аднолькавыя назвы. А рэспубліку ў цэлым літаральна запаланілі назвы з рэвалюцыйнай (чырвонай) сімволікай накшталт *Чырво́ны Змага́р, Чырво́ны Партыза́н, Чырво́ны Пі́льшчык, Чырво́ны Груд, Чырво́ны Кут, Чырво́ны Руча́й, Чырво́нае По́ле, Чырво́нае Се́лішча, Чырво́ная Кве́тка, Кра́сны Мост, Кра́сны Курга́н, Кра́сны Па́хар, Кра́сны Багаты́р, Кра́сны Свет, Кра́снае Сяло́, Кра́сная Ні́ва, Кра́сная Карма́.* Толькі ў адной Гомельскай вобласці іх больш за семдзесят. Падобна, што над сэнсам гэтых назваў ніхто ўсур'ёз не задумваўся. Інакш не з'явіліся б на свет такія кур'ёзныя нepisode наватворы, як *Чырвоны Алёс* (*алёс* азначае

'альховае балота'), *Савецкая Морач* (*морач* азначае 'цёмнае балота'), або гібрыды тыпу *Чырвоны Пахар*.

У 1960—1980-я гады асабліва выразна пазначылася тэндэнцыя да вымывання з айканіміі нацыянальнай лексікі. Паўсюдна пры перайменаванні і найменаванні новых паселішчаў пачалі ўводзіцца рускамоўныя назвы тыпу *Возрождéние, Восхóд, Востóк, Крáсный Октя́брь, Крáсная Звездá, Луч, Лучезáрная, Отрáдное, Пéрвое Мáя, Победи́тель, Побéда, Пятилéтка, Заря́ Коммуни́зма, Сирéневка*. Па-беларуску яны перадаюцца або транслітарацыяй (*Крáсны Акця́бр, Васхóд, Вастóк*), або перакладам (*Чырвóны Кастры́чнік, Усхóд*). Нярэдка нават мясцовы жыхар не ў стане разабрацца, як жа называецца яго вёска — *Перамóжац* ці *Пабядзíцель*, *Прамéнь* ці *Луч*, *Пяцігóдка* ці *Пяцілéтка*? Здараецца, што пераклад выцясняе арыгінал і атрымлівае афіцыйнае прызнанне. Тады для таго, каб правільна напісаць назву, трэба абавязкова высветліць, на якой мове яна ўпершыню была зафіксавана — на рускай ці беларускай. Калі на рускай, то, згодна з міжнароднымі правіламі, назву трэба не перакладаць, а запісваць літарамі беларускага алфавіта: *Акцябр*, *Вазраджджэнне*, *Дзвігацель*, *Луч*, *Лучазарная*, *Родзіна*. Відаць, не трэба нікога пераконваць у тым, што гэтыя назвы ў нацыянальным тапанімным кантэксце (ды нават і без кантэксту) успрымаюцца як чужародныя, штучныя ўтварэнні. А што, калі ад іх спатрэбіцца ўтварыць прыметнік? Як мы назавем краму, школу, бальніцу ці дзіцячы садок у вёсках *Залог Пяцілеткі, Пабедная, Родзіна, Трудавая*?

Бывае і так, што зусім нармальная беларуская назва, але для населенага пункта не падыходзіць. Напрыклад, у назоўным склоне вёска *Янка Купала* гучыць як быццам няблага, а ў іншых склонах — не зусім (*вораг разбіты пад Янкам Купалам*; *жыву ў Янку Купале*). У такіх выпадках даводзіцца адмаўляць назве ў скланенні і пры гэтым суправаджаць яе словамі, якія абазначаюць тып паселішча — *вёска*, *пасёлак* і іншыя (*пад вёскай Янка Купала*, *у вёсцы Янка Купала*). Таму перш чым прысвоіць назву населенаму пункту, трэба прадумаць усе дэталі, усе магчымыя сітуацыі. Справа гэта сур'ёзная, адказная і далікатная.

Перайменаванне — жывы, натуральны працэс. Развіццё грамадства, змены ў яго сацыяльнай, палітычнай арганізацыі, гаспадарчым укладзе непазбежна прыводзяць да абнаўлення ў сістэме геаграфічных назваў. Але дрэнна, калі працэс гэты ператвараецца ў стыхію, не бярэцца пад разумны кантроль. Тады ў першую чаргу церпіць ста-

ражытны фонд. А гэта — адчувальная страта для гісторыі і культуры народа, бо з дапамогай штучных імёнаў з айканіміі выдаляюцца назвы, што нясуць у сабе найкаштоўнейшую інфармацыю і ствараюць своеасаблівае гістарычна-культурнае асяроддзе.

Пры перайменаванні і найменаванні новая назва павінна:

а) даваца толькі на нацыянальнай мове;

б) адлюстроўваць нацыянальны каларыт (своеасаблівасць нацыянальнай мовы і культуры);

в) быць семантычна матываванай, г. зн. мець сэнс і заключаць у сабе пэўны аб'ём тапанімнай інфармацыі;

г) арганічна ўпісвацца ў нацыянальную тапанімную сістэму. Любая замена назвы ў межах тапанімнай сістэмы, што склалася гістарычна, патрабуе ўліку гукавой, словаўтваральнай і семантычнай структур новага наймення, каб не парушыць цэласнасці сістэмы і геаграфічнага фону;

д) утварацца па правілах граматыкі і семантыкі беларускай мовы і падпарадкоўвацца ўсім яе правілам словазмянення і словаўтварэння;

е) адлюстроўваць найбольш істотныя характарыстыкі аб'екта наймення і не паўтарацца хоць бы ў межах такіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных падраздзяленняў, як раён, сельсавет.

### 3. Упарадкаванне правапісу ўласных назваў населеных пунктаў

Пытанні ўпарадкавання правапісу ўласных назваў паселішчаў Беларусі ніколі не былі прадметам спецыяльнага даследавання або шырокага абмеркавання. Тым не менш пэўныя напрацоўкі ў гэтай галіне ёсць. У 1970-х гадах З.В. Рубцова на аснове звестак з сельскіх саветаў і школаў, атрыманых шляхам анкетавання, склала даволі значны спіс беларускіх айконімаў з улікам іх мясцовага вымаўлення. Гэта была спроба вярнуць назвам беларускіх паселішчаў іх сапраўдныя нацыянальныя формы і пакласці іх у аснову перадачы на рускую мову. Вынікам гэтай працы з'явіўся "Словарь топонимов Белоруссии", які ў свой час не атрымаў належнай падтрымкі з боку беларускіх службовых асоб і не быў апублікаваны.

Важную ролю ва ўрэгуляванні правапісу назваў беларускіх паселішчаў адыграў "Слоўнік назваў населеных пунктаў" Я.Н. Рапановіча па шасці абласцях: Віцебскай (1977), Брэсцкай (1980), Мінскай (1981), Гродзенскай (1982), Магілёўскай (1983) і Гомельскай (1986). Асноўная адметнасць слоўніка ў тым, што ўсе змешчаныя ў ім

назвы ўпершыню пададзены з націскам і, па сведчанні самога аўтара, "запісаны паводле арфаграфічных нормаў, прынятых у сучаснай літаратурнай мове (беларускай і рускай)". Надзвычай важна, што частка беларускіх формаў набліжана да арыгінала або цалкам адноўлена, асобным паланізаваным назвам вернута іх сапраўднае фанетычнае аблічча (*Лёзна*, *Мёры* замест *Ліёзна*, *Міёры*). Істотным з'яўляецца і тое, што аўтар слоўніка адмовіўся ад перакладу (калькавання назваў) і прыняў прынцып транслітарацыі (*Чырвоны Араты — Чирвоный Аратый*), які зараз прызнаны вядучым у міжнароднай практыцы пры перадачы геаграфічных назваў з адной мовы на іншую.

Зразумела, што з першага заходу немагчыма вырашыць усе тыя праблемы, якія назапашваліся стагоддзямі. Не змог рэалізаваць усе свае задумы і Я.Н. Рапановіч. Не ўдалося сабраць поўны рэестр назваў населеных пунктаў Беларусі (гэта ён прызнаваў і сам), дамагчыся строгай рэгламентацыі ў іх напісанні. У шэрагу выпадкаў прапанаваная ім форма для ўжытку разыходзіцца з мясцовай, з формамі, якімі карыстаюцца сучасныя энцыклапедычныя выданні. Нарэшце, пасля выхаду ў свет "Слоўніка назваў населеных пунктаў" Я.Н. Рапановіча прайшло больш за дваццаць гадоў і шмат што змянілася ў палітычна-адміністрацыйным падзеле Рэспублікі Беларусь, у рэестры назваў населеных пунктаў. Да таго ж гэты слоўнік не мае нарматыўнага статусу. У Беларусі адзіным выданнем, якое надзелена такім статусам, з'яўляецца "Справочник административно-территориального деления БССР" (1987) на рускай мове. Беларускамоўны друк і картаграфія мусяць пакуль што вырашаць пытанні правапісу геаграфічных назваў зыходзячы з уласных меркаванняў і магчымасцяў.

Як бачым, усё сведчыць пра тое, што наспела вострая неабходнасць у выданні такога нарматыўнага даведніка, у які б увайшлі ўсе без выключэння назвы паселішчаў у іх сапраўдным беларускім гучанні і напісанні. Яны ж павінны служыць зыходнай базай для перадачы найменняў на іншыя мовы (рускую, польскую і інш.).

Сёння ў міжнароднай практыцы назапашаны багаты вопыт па ўнармаванні ўласных геаграфічных назваў, з якім наша краіна не можа не лічыцца як член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

## 4. Структура нарматыўнага даведніка "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь"

Даведнік захоўвае пераемнасць у агульных падыходах да ўнармавання беларускай айканіміі, ужытых у слоўніку Я.Н. Рапановіча. Тым не менш ён цалкам можа разглядацца як даведнік новага пакалення. У ім сабраны ўсе наяўныя на 31 снежня 2002 г. назвы населеных пунктаў Беларусі, якія размяркоўваюцца ў межах чатырох рубрык[1].

У першай рубрыцы змешчана табліца адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак і іх колькасныя паказчыкі ў абсягу вобласці, звесткі пра дату ўтварэння і плошчу. Аналагічная інфармацыя даецца па кожным раёне. Раён у сваю чаргу падзяляецца на больш дробныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі: пасялковыя і сельскія саветы з указаннем усіх населеных пунктаў, якія да іх адносяцца (на беларускай мове кірыліцай і лацінкай, а таксама на рускай мове).

У беларускай частцы спісы назваў паселішчаў пададзены ў строгай алфавітнай паслядоўнасці. Пры кожнай загалоўнай беларускай назве паказваюцца: граматычны род (пры множналікавых — множны лік), канчаткі найбольш ужывальных у пісьмовай практыцы склонаў — роднага, творнага, меснага:

**Вайні́лава** *н.* -ва, -вам, -ве

**Згурск** *м.* -ка, -кам, -ку

**Астравы́** *мн.* -во́ў, -ва́мі, -ва́х.

У родным і творным склонах паказаны варыянты канчаткаў:

**Бая́ры** *мн.* Бая́р і -раў, -рамі, -рах

**Карма́** *ж.* -мы́, -мо́й і -мо́ю, -мé.

Пры супадзенні формаў творнага і меснага склонаў канчатак даецца толькі адзін раз:

**Азёрны** *м.* -нага, -ным

**Цярабе́йнае** *н.* -нага, -ным.

Склонавыя формы назваў населеных пунктаў у даведніку звычайна падаюцца ў скарачэнні, за выключэннем тых выпадкаў, калі скарачэнне па якіх-небудзь прычынах не пажаданае. Напрыклад, калі ўзнікае патрэба паказаць нейкую фанетыка-правапісную асаблівасць

[1] Зверка назваў населеных пунктаў, іх адміністрацыйна-тэрытарыяльнай прыналежнасці ажыццёўлена раённымі выканаўчымі камітэтамі Мінскай вобласці, Мінскім абласным выканаўчым камітэтам.

беларускай мовы, якую не кожны карыстальнік зможа прыняць да ўвагі: пераход [в] у [ў], [д] у [дз], [т] у [ц], пераход націску на іншы склад, чаргаванне і інш.:

**Асаве́ц** *м.* Асаўца́, -цо́м, -цы́

**Брод** *м.* Бро́да, -дам, -дзе

**Перуно́ў Мост** *м.* -но́вага Мо́ста, -но́вым Мо́стам, -но́вым Мо́сце

**Баро́к** *м.* Барка́, -ко́м, -ку́

**Калю́га** *ж.* -гі, -гай і -гаю, Калю́зе.

У беларускай частцы даведніка ўсе назвы маюць націск як у зыходнай форме, так і ў парадыгме, за выключэннем назваў з літарай *ё*, якая ў беларускай мове заўсёды знаходзіцца пад націскам.

Пад асобнай рубрыкай (“Варыянты назваў населеных пунктаў”) змешчаны варыянтныя назвы і іх формы, якія сёння не рэкамендуюцца ў якасці нормы, але пры жаданні мясцовых жыхароў і ўладаў могуць быць прызнаныя нарматыўнымі.

У рубрыцы “Страчаныя назвы населеных пунктаў” прыведзены спісы назваў, якія зараз па розных прычынах выйшлі з ужытку. Шмат іх знікла разам са спаленымі фашыстамі вёскамі, пры ўключэнні сельскіх паселішчаў у склад гарадоў, пры ліквідацыі хутароў і “неперспектыўных” вёсак, у працэсе перайменаванняў.

Для зручнасці карыстання даведнікам і забеспячэння большай яго інфарматыўнасці ў канцы асноўнага тэксту змешчаны тры алфавітныя паказальнікі назваў населеных пунктаў — на беларускай мове кірыліцай і лацінкай, а таксама на рускай мове. Яны маюць двайное прызначэнне: з'яўляюцца асобным агульнаалфавітным слоўнікам і адначасова выконваюць ролю адсылачнага звяна да асноўнай часткі даведніка.

Рэспубліка Беларусь паступова ўваходзіць у сусветную інфармацыйную прастору, дзе кантактаванне ажыццяўляецца з дапамогай лацінскага алфавіта. Усё болей беларускіх геаграфічных назваў трапляе ў замежныя лацінапісныя тэксты. З улікам гэтага ў даведніку ўпершыню ўвесь рэестр беларускіх назваў населеных пунктаў пададзены таксама лацінскім шрыфтам.

У даведніку свядома абыдзены адтапонімныя прыметнікі. Гэтая катэгорыя назваў фармуецца і функцыянуе пераважна ў вуснамоўным асяроддзі і, у адрозненне ад агульных слоў, мае вузкарэгіянальную прывязку. Працэс іх утварэння далёка не заўсёды падпарадкоўваецца законам граматыкі (*камунарскі* ад *Камуна*, *драгоцкі*

ад *Драхча*, *вугольскі* ад *Вуглы*, *бегамскі* ад *Бегамля*, *бярвіскі* ад *Бярвішча*). Ад адной і той жа назвы ў сістэмах розных дыялектных зонаў прыметнікі могуць быць утвораны па розных мадэлях (*будзянскі*, *будняцкі*, *будніцкі*, *будлянскі* ад *Буда*, *рудзінскі* і *рудлянскі* ад *Рудня*, *рошчаўскі* і *рошчынскі* ад *Рошча*). Значыць, перш чым ставіць пытанне пра шырокае ўключэнне ў даведнік адтапонімных дэрыватаў, іх неабходна сабраць у поўным аб'ёме і дасканала вывучыць. Па некалькіх раёнах Гомельскай, Віцебскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцей такая праца ўжо вядзецца. А пакуль у даведнік уключаны толькі прыметнікі, утвораныя ад назваў цэнтраў раёнаў, пасялковых і сельскіх саветаў.

### 5. Нарматыўныя задачы і спосабы іх вырашэння

Нарматыўныя задачы даведніка зводзяцца да ўстанаўлення нацыянальнай формы беларускіх назваў паселішчаў шляхам выпраўлення памылак і скажэнняў. Іншымі словамі, да адшукання формы, у якой назва ўвайшла ў нацыянальную мову.

Праграма пераводу беларускай айканіміі на нацыянальную аснову прадугледжвае:

1) ***збор айконімаў.*** Пры зборы айконімаў запіс вядзецца непасрэдна на месцы іх бытавання, а таксама шляхам распісвання беларускіх старапісьмовых помнікаў і сучасных найбольш аўтарытэтных публікацый па адзінай праграме і адзінай методыцы. Важна правільна пачуць вымаўленне і націск, вызначыць граматычны род назвы ў яе натуральным маўленчым кантэксце, зафіксаваць варыянты тапоніма;

2) ***апрацоўку сабраных матэрыялаў.*** На гэтай стадыі айконімы сістэматызуюцца і каталагізуюцца;

3) ***вызначэнне нормы.*** У працэсе аналізу ўстанаўліваецца нарматыўная форма кожнай назвы. За эталон прымаецца мясцовая форма (пры наяўнасці двух і болей варыянтаў — адна з формаў) назвы, якая з пакалення ў пакаленне перадаецца жыхарамі паселішча і найбольш праўдзіва адлюстроўвае спецыфіку нацыянальнай мовы і айканіміі.

У адрозненне ад агульных слоў, якія функцыянуюць пераважна ў адной літаратурнай форме, уласныя геаграфічныя назвы вар'іруюцца ў залежнасці ад асаблівасцяў іх вымаўлення ў тых ці іншых тэрытарыяльных дыялектах. Напрыклад, у розных мясцовасцях вымаўляюцца і пішуцца *Водруб* і *Вотруб*, *Адрубак* і *Атрубак*. Адна і тая ж па сваёй семантычнай сутнасці назва ўжываецца то з прыстаўнымі гукамі, то

без іх (*Гальшаны* і *Альшаны*, *Вострaў* і *Острaў*, *Воступ* і *Оступ*, *Амховая* і *Мховая*), з розным націскам (*Баркí* і *Бóркі*, *Кýдзеркі* і *Кудзéркі*, *Забалóцце* і *Зáбалацце*, *Зáйцы* і *Зайцы́*). Наяўнасць варыянтаў абумоўлена самой прыродай уласных геаграфічных назваў, а менавіта тым, што яны ўзніклі і сфармаваліся па законах мясцовых дыялектаў задоўга да таго, як пачалі складвацца нормы беларускай літаратурнай мовы. Таму мы запісваем іх па правілах сучаснай арфаграфіі, але з абавязковым захаваннем іх мясцовага фанетычнага і структурнага вобраза: *Абалóнь* і *Балóнь*, *Абвóрак* і *Абóрак*, *Сцюдзяніца* і *Студзяніца*, *Ліцвя́ны* і *Літвінкі*, *Карчóмнае* і *Карчэ́мнае*, *Кругóвіна* і *Круглóвіна*.

Некалькі іншы падыход у адносінах да правапісу прыстаўнога *в*, паколькі ў гэтым выпадку мы маем справу з характэрнай асаблівасцю беларускай мовы ў цэлым.

Уласныя найменні з ініцыяльнымі літарамі *о*, *у* вельмі неаднародныя. Ёсць назвы зусім празрыстыя паводле сваёй структуры і паходжання (*Вýгал*, *Вóзера*) і назвы, сэнс і моўная прыналежнасць якіх пакуль што з'яўляюцца загадкай (*Óлтуш*, *Óрдань*, *Ýрведзь*, *Устрóнь*, *Уць*). Некаторая частка назваў населеных пунктаў паўтарае назвы рэк, якія па ўсіх адзнаках з'яўляюцца неславянскімі па паходжанні (*Óлксна*, *Óпса*, *Óпліса*, *Ужá*, *Узá*, *Уздá*, *Улá*, *Усá*, *Уся́жа*, *Ýша*). Таму падвесці напісанне гэтай катэгорыі назваў пад агульнамоўнае правіла практычна немагчыма. У даведніку прынята наступная правапісная схема.

Прыстаўное *в* пішацца:

1) у геаграфічных назвах з пачатковымі націскнымі *о*, *у*, якія маюць прамыя лексічныя адпаведнікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове (*Вóзера, Вóстраў, Вýгал, Вýсце, Вýсы, Вýткі, Вóпытны, Вýзкае*), а таксама ў аднакарэнных з імі назвах з пачатковымі націскнымі і ненаціскнымі *о*, *у* (*Вóстрава, Вýгальнікі, Вýсаўшчына, Вугалóк, Вуглы́, Вугля́ны, Вугалéц*);

2) у геаграфічных назвах славянскага паходжання з пачатковымі націскнымі *о*, *у*, якія не маюць прамых лексічных адпаведнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове (*Вóбчае, Вóсава, Вóступ, Вýшлава*);

3) у сярэдзіне геаграфічных назваў перад націскнымі *о*, *у* (*Завóзер'е, Завóзерцы, Павýссе — р. Уса*).

Прыстаўное *в* не пішацца:

1) у геаграфічных назвах славянскага і неславянскага паходжання з пачатковым *у*, у якіх націск падае не на першы склад (*Уладáва, Улáсы, Упірава, Ушкавіца, Уздá, Узá, Усá, Усвéя, Усвяць, Уснáр, Усóмля, Усяжа, Ушá*);

2) у геаграфічных назвах славянскага паходжання з прыставачным пачатковым *у* незалежна ад месца націску (*Ýзбалаць, Ýзбераж, Узбярэжжа*);

3) у геаграфічных назвах няяснага паходжання з пачатковымі націскнымі *о, у* (*Óлтуш, Óрдань, Óрля, Óрпа, Óрша, Óршаль, Ýрач, Ýрведзь, Ýстрань, Ýтра, Ýхлясць, Уць, Ушá*).

У вытворных прыметніках ініцыяльныя літары з пераходам націску на іншыя склады не мяняюцца (*Уздá — ýздзенскі*).

Самая ідэальная сітуацыя, калі мясцовая форма без якіх-небудзь зменаў (апрача фанетыка-арфаграфічных) замацоўваецца ў пісьмовай мове. Але тапанімная практыка ніяк не ўкладваецца ў гэтую адзіную схему. Мясцовая форма даволі часта не супадае з пісьмовай з той прычыны, што пісьмовая аказваецца асіміляванай рускай або польскай мовамі, а часам проста памылковай. Нягледзячы на непапулярнасць у народзе, апошняя праз шырокае выкарыстанне ў афіцыйных крыніцах нярэдка трывала ўваходзіць у свядомасць грамадзян і ўспрымаецца імі як асноўная, абавязковая форма. Пасля гэтага ажыццявіць яе замену на сапраўдную (вуснамоўную) бывае не так проста. Праблему ствараюць традыцыйнасць, якая пры выбары варыянта з'яўляецца даволі ўплывовым аргументам, і, не ў меншай ступені, псіхалагічны бар'ер. Апрача таго, вяртанне кожнай былой назвы звязана з прававой працэдурай, фінансавымі выдаткамі.

Ёсць выпадкі, калі назва мае некалькі мясцовых варыянтаў. Тады даводзіцца кіравацца прынцыпам так званага "актуальнага гістарызму", г. зн. аддаваць перавагу варыянту, які супадае са старажытнай пісьмовай формай. Да прыкладу, адна і тая ж назва вёскі на месцы мае форму *Мелішаў*, на дарожных указальніках пішацца *Малешев, Малишев* (у Тураве), *Малишев, Малышев* (у Жыткавічах), *Малешево, Малишево* (у Лельчыцах), а ў старабеларускіх пісьмовых дакументах XVIII ст. — *Мелешевъ*. Значыць, за агульнаўжывальную прымаем форму *Мелешаў*.

Або такая сітуацыя. Жыхары называюць свае паселішчы *Амсціслаў, Полацак, Слуцак*, а ў старабеларускіх пісьмовых помніках гэ-

тыя назвы зафіксаваны ў форме *Мстислав* (*Мстиславль*), *Полоцк, Полоцькъ, Полотскъ, Полотескъ, Полтескъ, Плтескъ, Полческъ, Случескъ.*

Форма *Амсціслаў* адлюстроўвае адну з характэрных фанетыка-арфаграфічных асаблівасцяў беларускай мовы (наяўнасць прыстаўных галосных), а таму цалкам можа прэтэндаваць на нарматыўную. Але ж ёсць і іншая форма (*Мсціслаў*), якая з'яўляецца традыцыйна-пісьмовай і больш блізкай па структуры да старажытнай формы (*Мстиславль*). Трэба мець на ўвазе, што гэта адна з назваў гарадоў ранняй феадальнай эпохі (упамінаецца пад 1156 г.), якая сваім з'яўленнем абавязана рэальнай гістарычнай асобе. Каб засведчыць факт валодання князем горадам або сялом, да яго імя дадаваўся старажытны суфікс прыналежнасці *-j* (*-ёт*), перад якім пасля губных зычных з'яўляўся *-л* (*Мстислав + j → Мстиславль*). Да нас дайшлі толькі адзінкі назваў з такім паходжаннем і адносяцца яны да катэгорыі рэліктавых. А таму вельмі непажадана любое (нават нязначнае) іх структурнае пераафармленне. Дастаткова згадаць у гэтай сувязі незайздросны лёс беларускай старажытнай назвы *Изяславль*, якая спачатку дэфармавалася ў *Заслаў*, а пасля — у *Заслаўе. Изяславль* (пазней *Жеславль, Жаславль*) — адзін з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі (першае ўпамінанне — 1127 г.) звязаны з канкрэтнай гістарычнай падзеяй. Горад пабудаваў князь Уладзімір, падараваў яго свайму сыну Ізяславу, адкуль і пайшла назва *Изяславль*. Адступіўшы ад гістарычнай праўды, мы тым самым у значнай ступені пазбавілі назву яе старадаўняга зместу і формы.

Варыянты тыпу *Полацак, Слуцак* на працягу многіх стагоддзяў практычна не выходзілі за межы вуснага ўжытку. Пачатак іх пісьмовага выкарыстання адносіцца да канца XIX ст., але ўсё ж перавага аддавалася варыянту на *-цк*. Напрыклад, у беларускамоўнай газеце "Наша Ніва" (1906—1915) форма *Слуцак* ужыта толькі 5 разоў, у той час як *Слуцк* — 54 разы. Форма тыпу *Полацак, Слуцак* даволі актыўна выкарыстоўвалася пазней, у 20-х гадах мінулага стагоддзя, у БССР (гл., напр., Кайгарадаў А.І. Кліматычны атляс Беларусі. Менск, 1927), а таксама ў Заходняй Беларусі да часу яе ўваходжання ў склад БССР. Ужываецца яна ў асобных выданнях і цяпер. Але па-ранейшаму дамінуе форма на *-цк* (*Полацк, Слуцк, Клецк* і інш.).

У айканіміі беларускіх зямель суфікс *-ск(-цк)* адзначаецца з IX —

Х стст., у тым ліку ў назвах двух старажытнейшых гарадоў *Полацк* і *Смаленск*, засведчаных летапісамі пад 862 і 863 гг. Звыш паловы гарадоў з назвамі на *-ск*, згаданых у летапісах XI ст., прыпадае менавіта на зону фармавання беларусаў, дзе гэты суфікс выяўляе прадуктыўнасць і ў наступныя стагоддзі. Кожны трэці беларускі горад з ліку тых, што занесены ў "Список русских городов" канца XIV ст., заканчваецца на *-ск (-цк)*.

Такім чынам, зноў мы маем справу з глыбока традыцыйнай, рэліктавай з'явай, якая падкрэслівае самабытнасць нашага народа і старажытнасць тэрыторыі яго рассялення. У першую чаргу гэта адносіцца да назваў, якія ўтвораны па самай старажытнай мадэлі: *уласная назва ракі* + *-ск* : р. *Бабруя* + *ск* → *Бабруйск*, р. *Піна* + *ск* → *Пінск*, р. *Палата* + *ск* → *Полацк*, р. *Случ* + *ск* → *Слуцк*. На іншых славянскіх тэрыторыях іх адзінкі, і, як правіла, яны больш познія (напрыклад, на тэрыторыі Расіі).

Улічваючы ўсе згаданыя акалічнасці, мы аддаем перавагу традыцыйным пісьмовым формам на *-ск* (*-цк*), тым больш што формы *Полацак*, *Слуцак* не вытлумачваюцца фанетычнымі законамі беларускай мовы.

Нягледзячы на вялікую працу, праведзеную ў мэтах упарадкавання правапісу назваў населеных пунктаў, апошнюю кропку ў гэтай складанай справе пакуль што ставіць рана. У перспектыве мяркуецца разгледзець магчымасць пераводу многіх варыянтных назваў у разрад асноўных, афіцыйных. Шмат давядзецца зрабіць для таго, каб пазбавіць нашу айканімію ад усяго наноснага, штучнага, вярнуць ёй беспадстаўна знішчаныя ў працэсе перайменаванняў сапраўдныя гістарычныя найменні. Пытанні застаюцца і іх належыць вырашаць паступова, паэтапна, як гэта робіцца ў цывілізаваных краінах, дзе нарматыўна-даведкавыя выданні перыядычна дапаўняюцца і ўдасканальваюцца за кошт больш дакладных звестак і новых дасягненняў у галіне тапанімічнай навукі і практыкі.

* * *

У даведніку індэксамі пазначаны назвы населеных пунктаў на рускай мове, якія маюць разыходжанні з афіцыйнымі назвамі, што ўжываюцца да цяперашняга часу і ўнесены ў адзіны Рэестр адмі-

ністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Нацыянальнага кадастравага агенцтва Рэспублікі Беларусь.

Звесткі па кожным раёне заканчваюцца спісам назваў населеных пунктаў, якія маюць такія разыходжанні. Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы павінны ў першую чаргу звярнуць на гэта ўвагу і па магчымасці ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле і парадку вырашэння пытанняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўпарадкавання Рэспублікі Беларусь" ініцыяваць пытанне аб іх перайменаванні і наданні ім нарматыўнай формы.

# ПРЕДИСЛОВИЕ

## 1. Общие сведения о собственных географических названиях

Белорусские собственные географические названия (топонимы)[1] сформировались на протяжении столетий в самой тесной связи с жизнью и культурной деятельностью родственных и неродственных нам племен и народов, которые когда-либо населяли наш край. В совокупности они составляют ***белорусскую национальную топонимию.***

Наряду с памятниками древнего зодчества, руинами городищ и замчищ мы унаследовали от прежних поколений и собственные географические названия — своеобразную летопись своей земли. Имея в виду топонимное наследие, немецкий филолог Вильгельм Гримм писал: "Есть более живые свидетельства о народах, чем кости, гробы и оружие, — это их язык". Действительно, топонимы в отличие от археологических находок воплотили в себе языковую (звуковую) память об этносах, что существенно повышает их информационную ценность.

Отражая национальный колорит (это значит своеобразие национального языка и культуры), топонимы являются важной частью нашего историко-культурного наследия и также достойны бережного отношения и охраны, как и другие творения человеческого духа и человеческих рук. Каждый исчезнувший топоним — невосполнимая утрата, обеднение нашего топонимного ландшафта. Искаженные названия не только вступают в противоречие с их адресной функцией, но и теряют свой национальный облик, языковую специфику, историко-культурную и научную ценность.

Адресная функция собственных географических названий чрезвычайно важная, но не единственная. В каждом названии обязатель-

---

[1] Топоним — собственное название любого географического объекта (от греч. *топос* 'место' + *онима* 'имя, наименование'). Ойконим — одна из разновидностей топонимов — название населенного пункта (от греч. *ойкос* 'жилье, наименование'). Топонимия — совокупность собственных географических названий. Ойконимия — совокупность собственных названий населенных пунктов.

но присутствует или присутствовал конкретный исторический смысл, всеми своими корнями они связаны с культурой народа, являются ее продуктом и порождением, практически неотделимы от нее. Те топонимы, в которых воплощены типичные черты национальной культуры, факты или события, связанные с историей народа, относятся к категории ***историко-культурных памятников.***

Почетная обязанность и дело чести каждого государства — сохранить свое национальное достояние, обеспечить ему надежную государственную защиту.

## 2. Собственные названия населенных пунктов. Современное состояние

Белорусская ойконимия чрезмерно отягощена вариантностью на письменном и речевом уровнях, отличается неупорядоченностью и неграмотностью оформления. Причины этого как в нашем далеком, так и относительно недавнем прошлом. Еще со времен Люблинской унии (1569) ситуация для белорусского языка складывалась довольно неблагоприятно. Впоследствии в 1696 г. сейм Речи Посполитой упразднил официальный статус белорусского языка и таким образом открыл путь к тотальной полонизации. С этих пор названия белорусских населенных пунктов записывались только графическими средствами польского языка в характерной для него фонетической и грамматической формах. В таком виде большинство из них вошло в государственные документы, карты, вытеснив из письменной и картографической практики наши извечные правильные формы. В результате сложились две разновидности белорусской национальной ойконимии — официальная (полонизированная) и устная (традиционная).

Когда Беларусь оказалась в составе Российской империи, ни документалисты, ни историки, ни картографы также не взяли на себя заботу о точности передачи белорусских ойконимов на русский язык. Они заимствовали уже готовые польские формы и записывали их кириллической графикой. Это привело к тому, что целый ряд белорусских ойконимов вошел в историю в иноязычной искаженной форме, с несвойственными ей звуковыми, грамматическими и словообразовательными чертами. Этим был нанесен урон всей ойконимической системе Беларуси. В письменной практике начали прочно утверждаться полонизированные формы, часть которых еще и сегодня

функционирует в качестве официальных: *Азярыска, Ацячызна, Бжэгі, Вулька, Гурка, Дамброва, Доўбізна, Забрэззе, Калядзізна, Стаўпоўіскі, Туржэц, Хойна, Хойнікі* и др. В этот же список попали и названия наших широкоизвестных городов *Брэст, Гродна, Навагрудак, Драгічын*, которые упоминаются в ранних летописях и иных древних письменных документах в своем восточнославянском облике: *Beресть, Bepecтe, Городня, Новогородок, Новгородок, Дорогичин*. В этих же формах (только с некоторыми фонетическими различиями) они и в наше время стабильно употребляются в устном общении (*Бэрэсць, Бэрэсце, Бéрасце, Горадня, Навагарадак, Дарагічын*).

В процессе русскоязычной обработки множество белорусских названий еще более отдалилось от своего оригинала. Например, белорусские *Чарэмушнікі* в русском варианте превратились в *Черёмушки*, соответственно *Чамярыцы — Чемерисы, Сухавéжа — Суховержи, Казялужа — Козелужье, Бáбінка — Бабёнка, Гóсміра — Госмирово, Шыцікі — Щитики, Стрáлічаў — Стреличево, Лóўжа — Ловша, Звéсніца — Двесница, Глушынцы — Глушницы, Дóшнава — Дошмово, Каршавіца — Крашевица, Бáўцічы — Балтичи, Галавачы — Головичи, Пукшына — Пушкино, Харкі — Харьки, Вóжыкі — Ожики, Нóвыя Зелянькі — Новые Зелёнки, Івáнічы — Ивановичи, Смагарóўка — Сморговка* и т.д. Пройдя через российскую канцелярию, исчезли или утратили определенность целые словообразовательные типы белорусских ойконимов. Например, исконно белорусские формы сельских поселений на *-аў, -оў(-ёў), -еў, -ін(-ын)* совершенно сознательно были заменены на привычные россиянам формы на *-ава, -ова(-ёва), -ева, -іна(-ына)*. Таким образом, говорим *Барбарóў, Галачэў, Палóеў, Хóнаў, Шапярэў* (на Могилевщине), *Брылёў, Вінóраў, Вóсаў, Людвікóў, Пóкаршаў, Хóрастаў* (на Минщине), а пишем *Барбарóва, Галачэва, Палóева, Хóнава, Шапярэва, Брылёва, Вінóрава, Вóсава, Людвікóва, Пóкрашава, Хóрастава.*

В советский период каких-нибудь позитивных сдвигов в отношении к национальной ойконимии не произошло. По-прежнему оставались в употреблении полонизированные и русифицированные формы. Постепенно весь корпус белорусских ойконимов, в том числе и картотека названий населенных пунктов Беларуси при прежнем Верховном Совете БССР, были переведены на русскую орфографию. После этого белорусские формы ойконимов выводились исключи-

